# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 28 (1167) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 9 ЛІПЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.


## У МІКЛАШЭВЕ



У Міклашэве народны фэст арганізавалі ўпершыню, але затое шчыра, самаааддана, з творчым размахам, з грамадскім уздымам. Асабліва шмат часу на грамадскую працу прысвяціла міклашэўская моладзь. Старшыня вясковага гуртка Саюза сацыялістычнай польскай моладзі Галіна Агрыцюк кажа, што яе сябры шмат дзён працавалі да позняга вечара. Перш за ўсё навялі яны грунтоўны парадак у вясковым клубе і навокал яго. Чысцілі, мылі, малявалі. Усё на глянц. Даўнейшая занядбаная школа, у якой нейкі час памяшчалася таксама бюро нараўкаўскага СКРу, такім чынам пераўтварылася ва ўтульны клуб, у які прыемна зайсці, каб сустрэцца з сябрамі за чаем або пры шахматах. Гаспадыня гэтага клуба Жэня Богуш кажа, што супрацоўнічае з моладдзю вельмі паспяхова і плададатворна.

— Яны мяне палюбілі, — заяўляе яна, — і я іх таксама вельмі люблю. Сутыкаючыся з імі штодзённа, я сама крыху памаладзела. Гэта добрая, актыўная моладзь. Каб вы бачылі, як яны тут стараліся, як працавалі, каб наша вёска не была горшая ад іншых беластоцкіх вёсак. Асабліва стараўся Валодзя Каліноўскі і Алек Трусевіч.

Да гэтага пахвальнага хору ў гонар міклашэўскай моладзі далучаецца таксама сакратар мясцовай партыйнай арганізацыі Яўгеній Каліноўскі — сам яшчэ зусім малады чалавек.

— Дзе, у якой вёсцы, — з гонарам заяўляе ён, — вы ўбачыце вось такую летнюю, зялёную святліцу пад дрэвамі?

Сапраўды, такой святліцы я не бачыў на Беласточчыне. Яны самі здабывалі дрэва, самі рэзалі яго, самі майстравалі. З усяго гэтага атрымалася добра абсталяваная пляцоўка для танцаў з выгоднымі лавамі для адпачынку, з асобным месцам для аркестра, а побач, пад дрэвамі, абсталявалі яны сталы, але якія сталы! З распілаваных бярвенняў, з пластоў упоперак абрэзаных ствалоў тоўстых дрэў. Замест крэслаў — пянькі і лавы. Выглядае ўсё гэта вельмі арыгінальна і прыгожа. Цень густых дрэў ахоўвае ад летняй спёкі. Проста прыемна тут пасядзець у кампаніі сяброў, адпачыць пасля гульняў на танцавальнай пляцоўцы, падсілкавацца нейкім напіткам, а калі што, дык і тост у гонар...

Таксама шчыра рыхтаваліся да гэтага фэсту міклашэўскія жанчыны. Старшыня тутэйшага гуртка вясковых гаспадынь Анастасія Панькоўская гаворыць, што заваявалі яны ўжо прызнанне ў многіх конкурсах сельскагаспадарчага і грамадскага характару, а цяпер рашылі паказаць, што змогуць яны ў галіне самадзейнага мастацкага руху. Гурток КГВ налічвае ў Міклашэве 32 члены. Сярод іх знайшлося 9 жанчын з добрымі галасамі, з мастацкімі схільнасцямі. Пасля працы ў полі, пасля хатніх і прафесіянальных заняткаў прыходзілі яны ў клуб і тут супольна, пад кіраўніцтвам гаспадыні клуба, Жэні Богуш, развучвалі свае мясцовыя народныя песні, якія ведалі з дзіцячых гадоў, але з якімі не выступалі яшчэ на сцэне, перад так шматлюднай публікай.

Сюды ў Міклашэва наехала народу з усяго наваколля, а нават і з далёкіх старонак. Хто як мог. ПКСам, фурманкамі, на матацыклах і аўтамабілях. Даводзілася бачыць рэгістрацыйныя табліцы нават з Беластока і Варшавы.

Вёска прыбрала святочны выгляд. Віталі гасцей сцягамі і транспарантамі. Вясковы гандаль пастараўся, каб было што перакусіць і пачаставаць сяброў нейкімі ласункамі або напіткамі.

Ва ўсім гэтым адчувалася арганізатарская дзейнасць і спрыяльныя адносіны гміннай улады. На фэст прыехалі: сакратар гміннага камітэта партыі Ежы Бароўскі, старшыня гміннага камітэта Фронту адзінства народу, а заадно і дырэктар нараўкаўскага СКРу Кастусь Майсеня і начальнік гміны Язэп Навіцкі. Галоўнае праўленне БГКТ прадстаўлялі: старшыня Мікалай Самоцік і член прэзідыума Вінцук Склубоўскі, які таксама выступіў з дакладам аб 60-годдзі БССР.

(Працяг на стар. 4)



*Фэст у Міклашэве выклікаў вялікае зацікаўленне ва ўсім наваколлі.*



*Выступаюць жанчыны з Міклашэва.*



*Канцэрт вёў нястомны Янка Крупа.*




## МЫ

*На базары — мы купцы,*
*На лугу — мы ўсе касцы,*
*На вайне — мы ўсе байцы,*
*Ўсё героі, малайцы.*

*На вяселлі — мы сваты,*
*На радзінах — дык кумы,*
*За сталом — усе браты...*
*Не знайсці такіх, як мы!*

* ✲ *

*Кожны раз,*
*Калі пасля працы*
*Са сваіх рук змываеце*
*Сляды сажы, пылу,*
*Смалы, фарбаў,*
*Сляды няшчырых*
*Поціскаў, —*
*Асцерагайцеся,*
*Каб не змыць адказнасці*
*За нейчае жыццё.*

## КАЛІСЬЦІ...

*Калісьці гадзіннікі*
*Не так спяшаліся, як сёння,*
*І кожны год меў*
*Намнога больш месяцаў*
*І святочных дзён,*
*І лесвіцы ў нашым доме*
*Мелі намнога менш прыступак,*
*І ўсе дарогі былі карацейшыя,*
*А вёсны зелянейшыя,*
*А зімы — бялейшыя.*

*Расказваю ўнукам,*
*А яны, гарэзы, смяюцца,*
*Не вераць.*

## У ПЛАНЕТАРЫІ

*— Вось гэта — Спіральная галактыка,*
*Гэта — Эліптычная,*
*А гэта — кольцы Сатурна...*

*А я падумаў:*
*Дзівакі астраномы!*
*Няўжо яны не бачаць,*
*Што гэта —*
*Выратавальныя кругі,*
*Кінутыя некім*
*У Сусвеце?*

* ✲ *

*Каб зрабіць першы крок,*
*Патрэбна нам*
*Рука маці;*
*Каб, спатыкнуўшыся,*
*Зноўку падняцца —*
*Вера ў дарогу;*
*Каб адчуць цяпло сонца —*
*Дружба;*
*Каб не знаць адзіноцтва —*
*Радзіма.*

* ✲ *

*Ізноў на той сцежцы юнацкай,*
*Дзе кожны мне камень знаёмы,*
*Дзе вецер — калі б не ішоў я —*
*Як Туба — ганчак наш калішні —*
*Ляцеў да мяне абдымацца;*
*Дзе, хоць і даўно я ў адлучцы,*
*Чакала бацькоўская хата,*
*Каса пад страхою буслінай*
*І сонца на вочапе студні;*
*Дзе грэліся на частаколе*
*Катамі збаны паліўныя,*
*Дыміла дымком мультановым*
*Шчарбатага коміна люлька.*

*Вось глуха, чуваць, за дубровай*
*Пакашлівае навальніца.*
*Дзяцей нехта кліча хавацца*
*Ад грому.*
*Стаю і чакаю:*
*Мо хтосьці і мяне прыгадае.*
*Чакаю.*
*А дождж пачынае*
*Кpaплiста шумець нада мною.*

* ✲ *

*Знаць хочаш, як цябе знайшоў?*
*Па зорах, што ўсміхаліся,*
*Па кветках, што сярод лугоў,*
*Калі ішоў, віталіся,*
*Па салаўях, што ля дуброў*
*З табой перакліваліся.*

**Максім Танк**

 



*Першы сын у сям'і Майсакоў, капітан міліцыі Язэп Майсак*

# СЯМЕЙНАЕ ГНЯЗДО МАЙСАКОЎ

Ад стала падняўся Язэп Майсак, капітан міліцыі, найстарэйшы, першародны сын Лідзіі і Язэпа Майсакоў.

— Мы шчаслівы, — пачаў ён, — што дачакаліся такога слаўнага юбілею — 50-ай гадавіны з дня вашага шлюбу, што гэты юбілей адзначаем мы ўсе разам на тым самым месцы, дзе праходзіла ваша жыццё, дзе нарадзіліся і выраслі мы — вашыя дзеці, дзе наша супольнае гняздо.

Прытулілася яно да сцяны дрымучага лесу, схавалася за адхонам рухлівай шашы, па якой безупынку імчаць аўтамабілі з Беластока ў Гарадок і назад, абсталявалася ў жывапісным краявідзе над ракой Плоскай у Крулёвым Мосце.

Старэнькі юбіляр, змучаны жыццёвымі нягодамі, Язэп Майсак, галава роду, кажа, што ён на гэтым месцы пражыў ужо, мусіць, 100 год. У сапраўднасці яму цяпер 88. Толькі цяжар пражытага ўскладаецца на яго пастарэлыя плечы, і Язэп Майсак вымушаны абапірацца ўжо на дубінку.

— Прайшло, усё прайшло, — кажа ён з горыччу ў голасе, — прайшло, быццам адзін дзень. Батраком я быў, ні кала, ні двара ўласнага не меў. Адно толькі вопратку шыць патрапіў, за краўца прывучыўся. Усё ўласнымі рукамі дабываў. Купіў кусочак зямлі, паставіў невялічкую хатку і тады ажаніўся.

Калі Язэп Майсак спраўляў сваё вяселле, набліжалася яму ўжо саракоўка, дакладней 38 гадоў. Раней было яму не да жаніцьбы. Проста бяда не дазваляла. Кандыдатку ў жонкі знайшоў ён сабе ў суседнім Калодне. Была яна на 17 гадоў малодшая ад яго. Гэта аднак не перашкодзіла іх сямейнаму шчасцю, іх згоднаму, працалюбіваму жыццю.

— Як вы пазнаёміліся, як пажаніліся? — звяртаюся я да Лідзіі Майсак, сённяшняй юбіляркі.

— Разам на гульні, на вячоркі хадзілі, — кажа яна. — То ж не за гарамі мы жылі, а побач. І зацікаўленні ў нас падобныя былі, бо ён, значыць, муж мой, кравец і я — таксама краўчыха. Шылі тады мы людзям вопратку, дзяцей гадавалі і так жылі. А да таго бацька даў мне ў пасагу 2 гектары зямлі... Пэўна, што роскашы вялікай не было, бо ў нас амаль „што рок, то прарок", аж шасцёра, слава богу, жывых і здаровых, дачакаліся, а кожнае трэба было накарміць, апрануць і ў школу паслаць...

Найстарэйшы з Майсаковай сям'і, гэты капітан міліцыі, Язэп Майсак, з 1931 года нараджэння, расказвае:

— Да вайны, значыць да 1939 года, было нас ужо чацвёра: два браты і дзве сястры. Цяжкавата жылося. За тое, што пан Маладэцкі дазволіў пасвіць на яго сенажаці нашу адну кароўку, мы абавязаны былі адпрацаваць яму аж 40 дзён у полі. Сухі хлеб, бульба і нейкая каша — вось і ўся яда наша, якую запамятаў я са свайго дзяцінства.

Цяпер гляджу на даўжэзны стол, застаўлены на панадворку пад старой грушай, гляджу на гэты стол, які аж гнецца ад цяжару самых адмысловых страў, гляджу і думаю аб пройдзеным намі шляху, бо лёс сям'і Майсакоў нічым асаблівым не вылучаецца сярод лёсу ўсіх іншых нашых сем'яў, можа толькі тым, што Лідзія і Язэп Майсакі дачакаліся шчаслівай хвіліны, калі на іх 50-годдзе змаглі сабрацца за супольным сталом усе іх дзеці, уся сям'я.

Пра першага, Язэпа, я ўжо расказваў. Другі сын, якога ў сям'і называюць Ляонам, а па дакументах ён Ілья, з'яўляецца выдатным спецыялістам-электрыкам. Працуе на Беластоцкім прадпрыемстве механізаваных работ і будаўнічых машын. Ужо двойчы адпраўлялі яго на будоўлі ў Федэратыўную Рэспубліку Германіі. Сястра Ніна закончыла Ольштынскую вышэйшую сельскагаспадарчую школу і зараз настаўнічае ў Беластоцкім малочным тэхнікуме. Галіна, па мужу Гацута, працуе ў адміністрацыі беластоцкай бальніцы. Галена ж гаворыць больш пра свайго мужа, Пятра Семенчука, які з'яўляецца дырэктарам прывакзальнай пошты ў Беластоку. Ірэна, па мужу Тымінская, таксама заяўляе, што пра яе няма што расказваць.

А ўсе разам згодна і дружна, супольна са сваімі мужамі і жонкамі, пры падтрымцы сваіх дзяцей, у гонар бацькоў-юбіляраў гучна заводзяць „Многія лета, многія лета!"

— Вып'ем за здароўе нашых бацькоў! — заяўляе Язэп Майсак, бо ён быў тут галоўным дырыжорам сямейнай урачыстасці. — Хай жывуць нам сто год!

Ахвотна далучаемся да гэтага тосту, як далучыліся да яго ўсе Майсакі і іх сваякі з Беластока, з Крулёвага Мосту і з Калодны.

— Мы ніколі не забывалі, — кажа Язэп Майсак, — і ніколі не забудзем пра нашае сямейнае гняздо.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Юбіляр Язэп Майсак з Крулёвага Мосту.*



*Наймалодшы член сям'і Майсакоў, Іза Семянчук са сваёй мамай Галенай Семянчук.*

ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК

# ПРА ПАЭТА і ЗМАГАРА

Кніга Уладзіміра Калесніка „Ветразі Адысея"*) не належыць да лёгкіх у засваенні, яна не дасца праглынуць адным каўком, затое аніяк немагчыма ад яе адарвацца, пакуль не дойдзеш да апошняй старонкі. Яе прыцягальная і запаланяючая чытача сіла заключаецца ў дабытым даследчыкам факталагічным матэрыяле і глыбіні яго навуковай інтэрпрэтацыі, а дакладнасць сфармуляванняў і свежасць мовы ў выкладзе гэтыя вартасці яшчэ больш узмацняе. Зрэшты, такія ўласцівасці характэрны і іншым гісторыка-літаратуразнаўчым працам У. Калесніка — выдатнага знаўцы грамадскага жыцця і літаратурнага руху ў былой Заходняй Беларусі. Гэта яму належыць заслуга наблíжэння да нашых дзён і азнаямлення з дзейнасцю і творчасцю М. Васілька, М. Засіма, А. Салагуба, В. Таўлая і іншых заходнебеларускіх пісьменнікаў-барацьбітоў.

У „Ветразях Адысея" цэнтральнае месца адведзена літаратурнай творчасці і палітычнай дзейнасці **Уладзіміра Жылкі,** а таксама акрэсліваецца роля рамантычнай плыні ў беларускай літаратуры. Для нас гэтыя абедзве справы прадстаўляюць асаблівую каштоўнасць, бо раскрываюць тую атмасферу і ўваскрашаюць тыя абставіны, у якіх праходзіла маладосць і сталасць нашых бацькоў і дзядоў. А на долю У. Жылкі, які нарадзіўся 27 мая 1900 года ў вёсцы Макашы, што ляжыць недзе паміж Нясвіжам і Мíром, выпала прайсці надта ж цяжкі шлях. Літаратурную творчасць пачаў ён у галодным і халодным Мінску, калі горад апынаўся што раз то ў іншых руках. Пачынаючы паэт знаходзіўся пад уражаннем творчасці Янкі Купалы, сябраваў з таленавітым Міхасём Чаротам, сустракаўся з Змітраком Бядулем. У тым жа 1920 годзе, калі паявіўся ў друку яго першы верш, тады ён амаль смяртэльна злёг на сухоты. Як лекары нейкім цудам паднялі яго на ногі, ён адразу падаўся ачуньваць ад гэтай нявылячальнай тады хваробы да родзічаў у вёску. Там і адрэзала яго дзяржаўная граніца ад Савецкай Беларусі. Неўзабаве ён апынуўся ў Вільні — тагачасным цэнтры палітычнага і культурнага руху Заходняй Беларусі — і з галавой акунуўся ў гэтае бурлівае і скамплікаванае жыццё, дзе вядучую ролю адыгрывалі Максім Гарэцкі, Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Леапольд Родзевіч, Ігнат Канчэўскі і іншыя выдатныя постаці з нашай гісторыі. Недзе праз паўтара года, ратуючыся ад арышту, паэт выязджае ў сталіцу Літвы горад Коўна, дзе ў той час дзейнічала значнае асяроддзе беларускай інтэлігенцыі. Потым шлях рэвалюцыянера-падпольшчыка заводзіць яго ў Дзвінск у Латвіі, у якім знаходзіўся цэнтр беларускага культурна-асветнага жыцця, беларуская дзяржаўная гімназія, а ў заселенай у значнай ступені беларусамі правінцыі Латгалія было 46 беларускіх

(Працяг на стар. 4)

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ДЭМАНАЛОГІЯ




Русалка з'яўляецца нічым іншым, як творам людской фантазіі. Паводле народнага вераперакананання беларусаў, гэта прыгожая маладая дзяўчына з доўгімі распушчанымі валасамі. Найчасцей паяўляецца голая, з бледным тварам. Бледнасць гэта адна з тых рыс, якая заўсёды спадарожнічае істотам з „таго свету". Згодна з запісамі Карскага, беларусы верылі, што месцам быту русалак былі рэкі, азёры, дрэвы, збожжа. На Беласточчыне русалку найчасцей спалучаюць са збожжам, асабліва з пасевам жыта. Згодна з перакананнем людзей, усе дэманічныя істоты гэта душы памёршых ненатуральнай смерцю, або не хрышчаных. У выпадку русалак будуць гэта дзеці жаночага полу, або маладыя дзяўчаты, пакончыўшыя самагубствам ці забітыя, якія пасмертна прыйшлі адпомсціць за сваю крыўду.

Цікавы час і месца паяўлення русалак. Як мы ўжо адзначалі, былі гэта жытнія пасевы. У сувязі з гэтым радзіліся шматлікія перасцярогі. Нельга было таптаць, вырываць, абтрасаць квітнеючыя каласы. Русалка, як мы ўжо гаварылі пры раскрыванні яе знешняга вобразу, гэта прыгожая дзяўчына. Паяўлялася яна сярод калосячага палетка або на межах і вабіла праходзячых. Абсалютна нельга было гэтаму паддацца і ўвайсці на абсеяны загон, дзе пачыналіся законы русалак. Канчалася гэта заўсёды смерцю. Смерць русалка наносіла праз казытанне. Безупыннае пяшчотнае казытанне. Адзіным папярэджваннем была забарона ўваходзіць на абсеяныя жытам палеткі. Асабліва моцна перасцерагалі перад гэтым дзяцей, нават пужалі іх.

Адначасова была гэта форма ахоўвання пасеваў. З гэтым звязаны цэлы цяг абрадаў. Неабходна тут спаслацца на абрады, звязаныя са святам Юрыя, якое выпадае 6 мая. Пратрывала гэта яшчэ ў пэўнай форме па сённяшні дзень. Няма ўжо, праўда, рытуальнага качання гаспадара і гаспадыні па абсеяным жытам загоне, але захавалася, прыкладна, качанне каравая і ўстромліванне свянцоных на Вербніцу вярбовых лоз. Усё гэта мела спрыяць добраму і багатаму плёну. Як далейшы цяг ахоўвання пасеянага было стварэнне людской фантазіяй русалкі з яе дэманічнай абалонкай. Страх перад дэманічнымі сіламі і наследствам сутыкнення з імі заўсёды чалавека паралізаваў. Адначасова гэтыя істоты былі ахоўнікамі. Вядома са шматлікіх легенд і казак, якая дарога да закапанага скарбу ці матэрыяльнага шчасця. Колькі ёсць рознага страху на дарозе да кветкі папараці. Такую самую ролю спаўняла і русалка. Была яна дэманічным старажам, ахоўваючым пасевы, а заадно і часткова чалавечы быт. І, бадай, таму русалка паяўляецца ў жыце, што хлеб быў найважнейшым у жыцці чалавека. Калі ёсць хлеб, дык няма голаду. Часта гэтыя словы можна пачуць яшчэ і сёння. Хлеб чалавек заўсёды спалучаў толькі і выключна з жытам.

Народны каляндар поўнасцю наложаны на каляндар рэлігійных свят — ці з часоў язычаскіх, ці ўведзеных хрысціянствам. І гэта не дазваляе на нейкі канкрэтны лагічны адказ, які быў бы поўным вырашэннем гэтых праблем. Народнае вераванне гэта накапленне, з сённяшняга пункту гледжання, пластоў шматлікіх культур. Прыводжаныя розныя заўвагі, спробы аналізу паказваюць толькі на магчымасць такой ці іншай развязкі.

Часта пры русалцы паяўляецца другая назва — казытка. Цяжка сказаць, ці гэта дзве розныя дэманічныя істоты, зблíжаныя да сябе месцам паяўлення, спосабам зваблівання і наношвання смерці, бо як і русалка, так і казытка паяўлялася ў жыце і наносіла смерць праз казытанне, ці гэта адна і тая ж самая істота. Хутчэй тут аднак усё ж такі дзве назвы адной і той жа самай істоты, і казытка выводзіць сваю назву ад казытання — спосабу забівання сваёй ахвяры. Няма аднак сумненняў у тым, што „распусная" русалка (казытка) гэта жанчына-прывід, перанесеная людскім уяўленнем з іншай плоскасці ў рэальнае жыццё, каб ахоўваць узрастаючае жыта-хлеб.

Нашыя запісы паказалі аднак паступовы і ўжо амаль поўны занік жаночых дэманічных істот на карысць мужчынскай постаці — чорта. Змяніліся таксама абставіны і тапаграфія паяўлення гэтых істот. Шматлікія адкрыцці, высясненне некаторых таямніц развеялі міф бытавання такіх ці іншых дэманічных сіл.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**



 

(Працяг са стар. 1)

# У МІКЛАШЭВЕ

Пасля выступлення начальніка Навіцкага, пасля даклада Склубоўскага распачалася мастацкая частка. Канцэрт вёў настаўнік Янка Крупа, іграў на гармоніку Сцяпан Копа, спявалі самадзейнікі з Беластока, Гарадка і Міклашэва. Асабліва падабаліся песні, вершы і маналогі ў выкананні гарадоцкіх жанчын. Сапраўды быў гэта адзін з лепшых канцэртаў гэтага заслужанага мастацкага калектыву.

*Міклашэўска вёска вельмі ганарыцца, што ў нас, што ў нас фэстын весяліцца.* —



*Хлопцы з Міклашэва разыгралі сяброўскі матч па валейболу.*

— спявалі міклашэўскія жанчыны. Спявалі таксама і іншыя песні. Можа яшчэ не так, як самадзейнікі з Беластока ці Гарадка, але па-свойму. „Мы яшчэ лепш падвучымся“, — гаварыла Жэня Богуш, а сакратар Яўгеній Каліноўскі заявіў, што да фэсту ў наступным годзе падрыхтуюць яны сваю зялёную святліцу так, каб выглядала, як парк у горадзе.

— Пабачыце, будуць алейкі, дарожкі, а танцавальную пляцоўку мы накрыем дахам...

Жадаем поспеху. А ўбачыць? Чаму ж не, вельмі ахвотна. Тады праз год у Міклашэве!

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 3)

# ПРА ПАЭТА І ЗМАГАРА

пачатковых школ з 3500 вучнямі. Там ён пазнаёміўся з выдатным педагогам, асветным дзеячом, дырэктарам Дзвінскай беларускай гімназіі Іванам Краскоўскім. Адтуль паэт амаль толькі праездам затрымаўся ў Вільні, каб зараз жа, пазбягаючы пасучай на яго свае лапы дэфензівы, выехаць у Чэхаславакію. На працягу трох год ён вучыцца на гісторыка-філалагічным факультэце Карлава універсітэта ў Празе і актыўна дзейнічае ў зямляцтве беларускіх студэнтаў, якіх было там звыш сямідзесяці асоб, сярод іх такія выдатныя дзеячы, як Ігнат Дварчанін, Янка Бабровіч і іншыя. Урэшце, у канцы 1926 года ён вяртаецца ў Мінск і працуе спачатку літаратурным рэдактарам у газеце „Звязда“, затым выкладчыкам роднай мовы ў мінскім музычным тэхнікуме — тагачаснай кузні кадраў для паўстаючай беларускай музыкі. У гэтай вандроўцы знайшоў ён дружбу з Леапольдам Родзевічам — дзеячом Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, а потым Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, пісьменнікам, вядучым працаўніком і рэдактарам віленскіх прагрэсіўных газет; блізкае сяброўства з Ігнатам Дварчанінам — выдатным грамадскім дзеячом і літаратуразнаўцам, з якім яны разам рэдагавалі ў Празе беларускія студэнцкія часопісы „Перавясла“ і „Прамень“. Многа было сустрэчаў і этапаў на яго шляху, але ўсюды радасць існавання заглушаў неадступны мрочны цень сухотаў, што раз-пораз кідаў яго на доўгія месяцы ў бальнічны ложак без якой-колечы надзеі падняцца да жыцця. І ўсё ж наперакор злу ён падымаўся, працаваў, пісаў.

Яго паэзія жывілася героікай барацьбы люду Заходняй Беларусі. Вершы, паэмы і артыкулы, што нараджаліся пад яго пяром, будзілі людзей да актыўнага дзеяння, мабілізавалі і сагравалі ў барацьбе. Такое заданне ставіў паэт перад сваёй паэмай „Уяўленне“ (1923), перад большасцю вершаў у зборніках „На ростані“ (1924) і „З палёў Заходняй Беларусі“ (1927). Найбліжэй яго сэрцу быў рамантычны парыў і ў дзеянні і ў пачуццях і гэтаму, між іншым, даў ён выраз, перакладаючы на беларускую мову творы А. Міцкевіча, Г. Ібсена, Ш. Бадлера, І. Волькера і іншых творцаў з сусветнай літаратуры, якія ўсхвалялі подзвіг. Гэта асабліва яскрава відаць з таго, з якім незвычайным піетызмам пераклаў ён паэму „Слова пра Якуба Шэлю“ свайго сучасніка і аднадумца, польскага рэвалюцыянера Бруна Ясенскага.

Памёр У. Жылка 1 сакавіка 1933 года ў самым росквіце творчага таленту.

**Мікалай Гайдук**

---

*) Уладзімір Калеснік, **Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі,** Мінск 1977.



# Пахвала старасці

Аляксею Мічэйку ўжо 78 гадоў. Але ён яшчэ адчувае сябе добра і шмат дапамагае свайму сыну і нявестцы ў гаспадарскіх работах. Корміць ён жывёлу, сячэ дровы (пілуюцца яны крайзэгай). Задаволены ён асабліва з таго, што нявестка, а таксама сын добра гаспадараць і добра да яго адносяцца. У Слоі (гміна Шудзялава) ён належыць да найстарэйшых людзей, якія захавалі фізічную спраўнасць і ненарушаную памяць. Праўда, гэтай зімою ён быў моцна прыхварэў, але неяк мінулі цяжкія дні і ён далей ходзіць па сваёй сялібе ды наводзіць парадкі.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



## Ці ведаеце, што...

...у гміне Орля ёсць 23 салэцтвы.

...у гміне Орля ў жывёлагадоўлі спецыялізуецца 29 гаспадароў. Сярод іх Фёдар Нядзведзь з Орлі, Уладзімір Палавянюк, Аляксандр Орда і Ян Жужаль з Міклашоў, Ян Клін з Крывяціч, Пётр Бяроза, Аркадзь Пасынюк і Уладзімір Тымашыцкі са Шчытоў.

...у гміне Орля 150 вяскоўцаў атрымала званне кваліфікаванага гаспадара.

...у гміне Орля жыхары Крывяціч і Рэдутаў адрамантавалі вуліцу і пабудавалі тратуары, жыхары Міклашоў у грамадскім пачыне пабудавалі святліцу і абгарадзілі яе, жыхары Чэхаў Забалотных адаптавалі пустуючы будынак на святліцу. **(ця)**

## Кажуць, што...

*...лясная рачулка Свінабродка ў глухім урочышчы Свінаброд падклала Жэдненскаму надлясніцтву маленькую свінню. Якраз там на ёй была вялікая сажалка, у якой захоўвалася ў вадзе значная колькасць драўніны. Але вось у калядную ноч мінулага года пакладзістая дагэтуль Свінабродка ўзяла ды збунтавалася: бурлівай хваляю прарвала запруду і пайшла сабе на волю. Тая ж сажалка ўміг высахла, быццам яе і не было, затое сотні кубаметраў першакласнай драўніны асталося ляжаць там ужо без вады. На засыпанне тае прорвы ў запрудзе трэба якіх тры-чатыры машыны жвіру са жвіроўні, што знаходзіцца ў пяцідзесяці метрах адтуль, але гэта нікому з адказных за драўніну і ў голаў не прыходзіць. На ляжачае без вады дрэва напалі караеды і іншыя шкоднікі ды точаць яго, аж па навакольным лесе пошчак раздаецца. Точаць ды мяркуюць, ці за такое нядбальства і марнатраўства будзе ўрэшце рэшт свінская справа ў судзе таму, каму належыцца.*

**(іс)**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

У Беластоку адбыліся II ваяводскія спартыўна-рэкрэацыйныя гульні работнікаў беластоцкага ВЗСР „Самапомач хлопска“. Удзельнічала ў іх 15 камандаў. Першынство заваявала каманда ГСу ў Бранску, другое і трэцяе месца занялі каманды ГСаў у Дуброве і Сідры.

У сяткоўцы перамагла жаночая каманда бранскага ГСу і мужчынская каманда дуброўскага ГСу. У футбольных розыгрышах наймацнейшай была мужчынская каманда ГСу ў Бранску. Мужчынская каманда ГСу ў Дуброве стала пераможцам у цягненні каната. У стральбе першае месца занялі работнікі бюро ВЗСР у Беластоку. На 100 і 800-метровай дыстанцыях найхутчэй бегла Софія Савіцкая, работніца ГСу ў Бранску, а на дыстанцыі 200 і 400 метраў — Тэрэса Мароз, таксама з ГСу ў Бранску. Бранская жаночая каманда найлепш справілася

# Спартыўныя гульні

і ў эстафеце 4х100 м. Ядро і кап'ё найдалей кінула Анна Менько з ГСу ў Тыкоціне. Яна таксама найдалей скочыла. У кіданні дыска перамагла Альжбета Казлоўская з бранскага ГСу. У вышыню найлепш скакала Валянціна Самойлік з ГСу ў Дуброве. У даўжыню і ў вышыню найлепшым скачком быў Андрэй Кірэйчык, работнік дуброўскага ГСу. Ён таксама найхутчэй прабег на 100-метровай дыстанцыі. Дыстанцыя 200-метровай даўжыні найлепшым назвала бегуна Юзэфа Трусяка з бранскага ГСу. На дыстанцыях 400 і 800 м ніхто не абагнаў Андрэя Юрчака, таксама з бранскага ГСу. У кіданні дыска і ядра званне найлепшага заваяваў Казімір Парафінчык з ГСу ў Сухаволі і ў кіданні кап'я — Збігнеў Васілеўскі з ГСу ў Бранску. Дыстанцыю 5000 метраў першым прабег Ян Бондзюль з ГСу ў Сідры і карацейшую дыстанцыю даўжынёю 1 500 м — Станіслаў Келкуцкі з ГСу ў Вышках. Найлепшай мужчынскай эстафетай 4х100 м была эстафета тыкацінскага ГСу. **(ця)**

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА V

Справай удзелу Коласа ў антыпанскіх падзеях зацікавіўся сам пінскі губернатар. Звярнуўся ён да паліцыйных улад з наступным загадам: „Ввиду сведений, имеющихся у меня о возбуждении учителем Пинкович Мицкевичем крестьян того же села против помещиков к представлению ими незаконных требований, а при неудовлетворении их — насильственному захвату имущества, предписываю в.в. основательно проверить указанные сведения и в случае их подтверждения тотчас арестовать эту личность.“

Справай Коласа займалася і паліцыя, і асветніцкія ўлады. З справаздачы школьнага інспектара: „Когда я спросил Мицкевича о его участии в аграрном движении крестьян Пинковичевской общины, то он чистосердечно заявил, что он, убежденный в справедливости требований, предъявляемых крестьянами помещику Скирмунту, по их просьбе писал им петицию... Опасаюсь, чтобы перемещение Мицкевича не вызвало ещё большего волнения среди крестьян, очень привязанных к нему, а также не толкнуло бы на какое-нибудь преступное действие и других учителей Пинского уезда, которые вряд ли останутся пассивными к судьбе одного из своих товарищей“.

Пад націскам паліцыі школьныя ўлады перавялі Коласа ў недалёкую ад Пінковіч школу ў Верхані. Колас, аднак, у нічым не ўступіў уладам і нічога не выракся. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца яго ўдзел у ліпені 1906 года ў вядомым нам ужо настаўніцкім з'ездзе ў Мікалаеўшчыне. Колас быў не толькі ўдзельнікам з'езду, але і адным з яго арганізатараў. Увайшоў ён у праўленне выбранага на з'ездзе настаўніцкага саюза.

З пастановы з'езду відаць, што настаўнікі не абмяжоўваліся выключна школьнымі праблемамі, а цікавіліся таксама агульнаграмадскімі справамі і да працэсу рэалізацыі сваіх ідэй старaліся прыцягнуць сялянства.

Справай удзелу Коласа ў з'ездзе з аднаго боку займалася паліцыя, а з другога школьны інспектар Залеўскі. Захаваліся абшырныя нататкі і справаздачы Залеўскага, якія досыць добра выясняюць спосаб абароны Коласа ў гэтай справе.

Колас стараўся даказаць, што яго ўдзел быў выпадковы і што сам з'езд хутчэй быў сяброўскай сустрэчай, чым палітычным актам. Тактыка Коласа дала ў пэўнай ступені станоўчыя вынікі. Інспектар Залеўскі быў выразна збіты з панталыку. З аднаго боку, ён гаварыў, што Колас мае характар „неустойчивый и скрытый“. З другога аднак боку, падкрэсліваў выключную адказнасць Коласа як настаўніка і яго папулярнасць сярод сялянства і вучняў.

У канцы Залеўскі канклюдаваў наступнае: „Из всего выше изложенного вытекает, что учителя Константин Мицкевич, Адам Войцеховский и помочник учителя Иван Федоров явились в известный день в село Николаевщину на учительский съезд, без всякого сомнения, на приглашение, хотя они отвергают это, и что они принимали участие в составлении протокола о присоединении к всероссийскому союзу учителей и охотно подписали его несмотря на нелегальность его содержания“.

На аснове прапаноў Залеўскага Акруга народных школ Мінскай губерні

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

## Севасцьян Раманюк



Ён найбольш таленавіты чалавек вёскі Крывец, што ў Нараўскай гміне. Шмат збудаваў ён вясковых хатаў, шмат рабіў вокан, дзвярэй, не гаворачы ўжо аб падрыхтоўцы падлогі, падсуфіткі і іх укладанні і прыбіванні. Усё гэта патрабуе дакладнасці, умення і працавітасці. Апрача цяслярскіх і сталярскіх работ, з'яўляецца ён добрым здуном. Печы, печкі, пліты, сцяноўкі яго выканання заўсёды мелі добрую цягу і добра абагравалі хаты.

Помняць людзі і аб тым, што Севасцьян Раманюк рабіў моцныя калёсы, выконваў аббудову для сталярскіх прылад. А падчас акупацыі рабіў жалезка да гэбляў.

Самародны талент яго многагранны. Да чаго прыложыць ён сваю руку, мусіць быць яно дасканала зроблена. Севасцьяну Раманюку цяпер 69 год. Ён ужо мала займаецца рамеснымі работамі. Зараз яму не пад сілу цяжэйшыя працы. У яго добрыя сталярскія прылады, але патрабуюць яны моцных рук.

Севасцьян Раманюк у 1929 годзе закончыў самаходны курс у Беластоку і, будучы ў войску, ездзіў грузавымі і легкавымі машынамі, працаваў пазней аўтамеханікам. Цікавая яго біяграфія. З бежанцаў, з Омска, вярнуўся ён з бацькамі ў 1923 годзе. У трыццатых гадах працаваў у Гайнаўцы пры будове тартачных баракаў. Пасля нейкі час у абшарніка ў Шчытах „Фордам" вазіў дзяцей у гімназію ў Бельску. У 1939 годзе быў на вайне, у 1941 годзе зноў ваяваў і ў Мінску папаў у нямецкі палон. Быў там у лагеры, з якога ўцёк. У 1945 годзе паступіў у рады ППР, а ў 1946 годзе ў ОРМО. Свайго часу быў некалькі кадэнцыяў сакратаром ПОП і солтысам сваёй вёскі. У яго пяцёра дарослых, жанатых дзяцей. Цяпер ён працуе сторажам у сельскагаспадарчым кааператыве сваёй вёскі.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага.**

пастанавіла: „Уволить от занимаемых ими учительских должностей, не лишая их однако надежды на возможность возвращения снова к учительской службе, в случае приятного исхода проведенного к ним жандармским управлением обвинения".

Намі было ўжо сказана, што паліцыя выказала ў гэтай справе рашучасць і передала справу суду, які прыгаварыў Коласа на тры гады зняволення.

У некаторых публікацыях даследчыкі з'езд настаўнікаў у Мікалаеўшчыне трактуюць як акт, які даў пачатак Беларускаму настаўніцкаму саюзу. Такія меркаванні беспадстаўныя. У дакументах з'езду гаворыцца толькі аб далучэнні настаўнікаў „Северо-западного края" да Усерускага настаўніцкага саюза.

Беларускі настаўніцкі саюз быў створаны ў канцы 1906 года ў Вільні. Віленскі з'езд патрабаваў арганізацыі беларускіх школ, эмансіпацыі беларускай мовы, паляпшэння жыцця для настаўнікаў-беларусаў. Цікавыя інфармацыі на гэтую тэму знаходзім у кнізе А. Луцкевіча „За 25 гадоў", Вільня 1928 г.

Колас прысутнічаў і на гэтым з'ездзе. У гэтым факце знаходзім пацвярджэнне, што быў ён не выпадковым, а паслядоўным барацьбітом з тагачаснай антыбеларускай царскай рэчаіснасцю.

## Поспехі бяльчан

У мінулым годзе Аддзел прадпрыемства „Прэса-Кніжка-Рух" у Бельску дабіўся значных поспехаў у сваёй дзейнасці. Вось хаця б, у продажы партыйнай прэсы. Выканаў ён план у 115,2%. Работнікі 170 кіёскаў і клубаў „Рух" прадалі 10 мільёнаў 375 тысяч экземпляраў газет і часопісаў. Аднак многіх газет і часопісаў не было ўдосталь. Не хапае для ўсіх чытачоў „Трыбуны люду", „Нівы", „Новай всі", „Валькі млодых" і іншых.

Культурна-асветную дзейнасць прадпрыемства вядзе ў 77 клубах „Рух". Усюды там ёсць тэлевізары, радыёпрыёмнікі, праігрывацелі, а ў 41 клубе ёсць і магнітафон. У клубах адбываюцца сустрэчы з пісьменнікамі, акцёрамі, журналістамі, музыказнаўцамі і іншымі людзьмі з цікавымі прафесіямі. 17 кіраўнікоў клубаў „Рух" атрымліваюць дадатковы ганарар за вядзенне культурна-асветнай дзейнасці ў гэтых культурных цэнтрах. Сёлета ў маі асабліва многа культурных мерапрыемстваў адбылося з нагоды Дзён культуры, асветы, кніжкі і прэсы. У карыстанне быў аддадзены пабудаваны грамадскай працай і багата абсталяваны клуб „Рух" у Райску.

План тавараабароту за 1977 год бельскае прадпрыемства рэалізавала ў 118,4%. Было прададзена розных тавараў на суму 111 мільёнаў 398 тысяч злотых. У продаж паступіла значна большая колькасць сувеніраў, асабліва ў пункты продажу, якія знаходзяцца ў турысцкіх і курортных мясцовасцях. У параўнанні з 1976 годам у мінулым годзе продаж іх павялічыўся на суму 432 тысячы злотых. **(Я. Ц.)**

## Новае ў Супраслі

Супрасль гэта прыгожае мястэчка, якое знаходзіцца на ўскраіне Кнышынскай пушчы. У апошнія гады яна атрымала водаправодную сетку, і цяпер у кожным доме ёсць вада з крана, новыя прыгожыя скверыкі, былі адрамантаваны чатыры важнейшыя вуліцы. Расце пасёлак аднасямейных домікаў, які названы Левітоўкай.

Улады горада і гміны задумваюцца над тым, як зберагчы каштоўныя памятнікі старадаўнасці. Зараз праводзіцца аднаўленне абаронных мураў царквы з XVI стагоддзя. Сюды ўжо прывезены з Беластока унікальныя царкоўныя фрэскі.

У бліжэйшай будучыні ў Супраслі неабходна аднавіць яшчэ некалькі вуліц і збудаваць ачышчальню камунальных і прамысловых сцёкаў, якія атручваюць ваду ў рацэ Супрасль.

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**



*Разьба па дрэву ў цэнтры Супраслі.*

## ФАЛЬКЛОР

### ЛЮБОЎНАЯ

*Moderato*



Ой, п'я-на я, п'я-на, до до-моньку ні зай-ду,



зу-ду-сі-ла я со-ло-вей-чы-ка я ў віш-нё-во-му са-ду.

*Ой, п'яна я, п'яна, до домоньку ні зайду,*
*задусіла я соловэйчыка я ў вішнёвому саду,*
*задусіла я соловэйчыка я ў вішнёвому саду.*
*Соловэйко шчэбэчэ, а зазуленька куе,*
*а Бог знае, а Бог ведае, дзе мой мілы ночуе,*
*а Бог знае, а Бог ведае, дзе мой мілы ночуе.*
*Ой, колі ў дорозі — поздороў его, Божэ,*
*колі ў дзеўчыні на подушыні — покарай его, Божэ,*
*колі ў дзейчыні на подушыні — покарай его, Божэ.*
*Покарай его, Божэ, велікою карою,*
*што я до его з шчэрым сэрдэньком — он до мэнэ ніпраўдою,*
*што я до его з шчэрым сэрдэньком — он до мэнэ ніпраўдою.*
*Ой, пуйду я горэю, а й ты — доліною,*
*говорат людэ, я й сама знаю, што ні жыці мне з тобою,*
*говорат людэ, я й сама знаю, што ні жыці мне з тобою.*

Ад Марыі Баравік, 1912 года нараджэння, і Марыі Чэрнякевіч, 1904 года нараджэння, вёска Гайдукоўшчына гм. Нарва, запісаў 19 мая 1978 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

### РАЗГУБІЛІСЯ МЫ*)

Верш пачынаецца з малой літары, цячэ ручаём без знакаў прыпынку, пытальнікаў, клічнікаў, косак, аднака ж з кропкай у канцы. Сутнасць верша зразумець можна, хоць магчыма і не поўнасцю. Паспрабуем разабрацца.

*„разгубіліся мы*
*і ніяк не зможам*
*знайсці сябе"*

Знайсці сябе вы зможаце, як схочаце пераключыцца з русла „сучаснай" паэзіі. А з вашым талентам можаце стаць тым для Беласточчыны, чым была М. Канапніцкая для Сувальшчыны.

*„у натоўпе*
*дваццатага стагоддзя*
*жыццё бяжыць так хутка*
*без перапынку*
*няма больш павароту.*

У дваццатым стагоддзі жыццё не заўсёды і не ўсім бегла так хутка. Тым, што цярпелі жахі вайны, мукі ў канцлагерах, голад, холад, дні ішлі чарапашыным крокам. Што ж вам, распустнаму пакаленню, прыдумаць? Хіба спрабуйце завучыць на памяць верш калегі Кастуся Бандарука да нейкай Г. Нарыськевіч.

*„да тых што думалі*
*і ніяк прыдумаць не маглі*
*як жыць"*

Жыць — не якаць і не хныкаць. Як жыць, то не тужыць.

*„як жыць*
*а гэта ўсё так проста*
*быць чалавекам*
*для сябе*
*для ўсіх людзей"*

Для сябе быць чалавекам прасцей простшага, але для ўсіх людзей? Выкажу гэта вершам:

*Быць чалавекам — дарога слізка*
*Добраму быць для ўсіх.*
*Людзі як людзі, ёсць і людзіска,*
*Заганаў многа ў іх.*

*Не ўсякі хоча, не ўсякі можа*
*Усім чалавекам быць.*
*У гэтым „не можа" й бог не паможа,*
*Дарэмна й гаварыць.*

*Быць чалавекам, гэта не проста,*
*У гэтым упэўнены я.*
*Гэта не проста, як у воду з моста,*
*Шаноўная Агнія.*

**Дзядзька Квас**

*) *„Беларускі каляндар — 78".*

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### НАЙЛЕПШЫЯ

У спаборніцтве працы паміж прадаўшчыкамі кіёскаў „Рух" за мінулы год у Беластоцкім ваяводстве (не ўлічваючы Беластока, дзе асобна былі падведзены вынікі) першае месца занялі Крыстына Гутоўская і Яніна Красніцкая, прадаўшчыцы з Васількова; другое — Мар'янна Высоцкая, прадаўшчыца ў Пасвентным, трэцяе заняў Пётр Нос, прадаўшчык у Гарадку. Пераходны сцяжок, ужо другі раз, атрымаў Васількоў. Пераможцы атрымалі дыпломныя і грашовыя ўзнагароды.

### АКТЫЎНАЯ КІРАЎНІЧКА

Добра працуе цэнтр „Сучасная гаспадыня" ў Нарве. Вядзе яго Леакадзія Асташэўская. У цэнтры жанчыны вучацца кройцы і шыццю і як густоўна і без лішніх выдаткаў апранацца, а таксама, як рацыянальна харчаваць сям'ю. Тут можна пазычыць кухонную пасуду і настольны набор для значнай колькасці асоб, аддаць вопратку ў хімчыстку. Кіраўнічка цэнтра „Сучасная гаспадыня" Леакадзія Асташэўская арганізуе паказы моды і дэгустацыю малочных і рыбных страў. У канцы мінулага года і ў пачатку гэтага ў нараўскім цэнтры жанчыны займаліся на курсе грамадска-палітычных ведаў. У час жніва ў гэтым годзе цэнтр „Сучасная гаспадыня" арганізуе вясковы дзяцінец у Нарве, а таксама дапаможа ў арганізацыі і вядзенні іх у навакольных вёсках. Кіраўнічка цэнтра мае вопыт у гэтым. Яна таксама добры арганізатар культурна-асветнай дзейнасці ў гміне.

### ПЕРАБУДОЎВАЮЦЬ ВУЛІЦЫ

Нядаўна дарожныя рабочыя пачалі перабудоўваць вуліцы ў цэнтры Юхноўца Касцельнага. Ужо паабапал вуліцы пракладзены кравэнжнікі. Крыху пазней будуць пракладзены тратуары.

Зараз заканчваецца перабудова скрыжавання дарог у напрамках Беласток — Чараўкі і Беласток — Бельск, якое знаходзіцца за пасёлкам.

### ЧЫМ ЗАЙМАЕЦЦА ВАСІЛЬКОЎСКІ ГС?

Як нас паінфармаваў старшыня ГСу ў Васількове Казімір Турэцкі, сёлета добраўпарадкаваны ўсе гандлёвыя ўстановы ў Васількоўскай і Супрасльскай гмінах. І так, мадэрнізавана спажывецкая крама ў Дамброўках, памаляваны бар „Універсальны" ў Васількове і дзве васількоўскія крамы. Работнікі ГСаўскай рамонтна-будаўнічай брыгады закончылі рамонт спажывецкай крамы ў Юроўцах. Адноўлены былі таксама столікі пад каляровымі парасонамі ў агародчыку ля гэтай крамы.

У пачатку мая гэтага года быў адкрыты спажывецкі кіёск у падбеластоцкай вёсцы Грабаўка. **(ця)**



*Над Нарвай ля Плёсак.* *Фота Я. Целушэцкага.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У 1946 годзе муж і жонка купілі прыватнай умовай гаспадарку. У 1968 годзе яны ўзялі развод і былы муж, ажаніўшыся другі раз, перайшоў на гаспадарку сваёй другой жонкі. Разведзеная жонка асталася з дачкой на гаспадарцы, а ў 1974 г. атрымала акт уласнасці. Яе былы муж патрабуе сплаты за сваю частку гаспадаркі, пагражаючы судом. Ці можа ён дабівацца сваёй часткі?

АДКАЗ: Пакуль не было адміністрацыйнай пастановы аб прызнанні ўласнасці разведзенай жонцы, яе былы муж мог патрабаваць праз суд сцвярджэння, што ён супольна з жонкай набыў уласнасць гаспадаркі праз даўнасць; паколькі прыватная ўмова не пераносіць уласнасці, уласнікам аставаўся той, хто гаспадарку мужу і жонцы прыватнай умовай прадаў, а прайшло ад таго часу звыш дваццаці год. Аднак на аснове адміністрацыйнай пастановы аб прызнанні ўласнасці яго былой жонцы, тая сталася выключнай уласніцай гаспадаркі, і праз суд ён ніякіх праў дабівацца не можа. Адміністрацыйная ўлада не магла прызнаць права на гаспадарку мужу і жонцы супольна, паколькі муж пакінуў гаспадарку ў 1968 г., а права ўласнасці прызнаецца згодна з законам з 26 X 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак толькі тым, хто валодаў гаспадаркай 4 лістапада 1971 г.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Снілася мне, што я да суседа занесла свайго ката. Дачка суседа сядзіць у пакоі і шые (у сапраўднасці не жыве тут, выйшла замуж). Я перасунула ложка так, што другое паднялося і пашкодзіла сцяну. На сцяне паўсталі тры карычневыя палоскі, на якіх выступілі кропелькі вады і раса. Я пачала іх выціраць. Гэта, што здарылася, бачыла дачка суседа. Здаецца, яна таксама пачала выціраць гэтыя палоскі. Пад ложкам сядзеў кот. Мала што гэтае ложка яго не забіла. Ён ляжаў на падлозе. Скрунуўся і выцягнуў ногі так, як прыдушаны кот, які ўжо памірае. Вельмі мне стала яго шкада. Я яго ўзяла з падлогі і наліла ў місачку варанай капусты. Ён пачаў есці. Думаю сабе: будзе жыць, толькі трэба яго забінтаваць. І на гэтым прачнулася. Што гэта можа быць?

Галена

**Галена!** Занадта пацешыць цябе не магу. Ці ўбачыш ува сне ката, ці кошку, ці кацянят — абазначае гэта, што ў тваім асяроддзі ёсць нейкія хітрыя, хлуслівыя і прадажныя сябры. Ты да іх з сэрцам, а яны, бачыш, якія... Ці не з-за гэтых сяброў вынікнуць у цябе нейкія клопаты і перашкоды. Можа гэта быць нават нейкая хвароба (ложка, вараная капуста, хворы кот). Твае, аднак, адносіны да ката сведчаць аб тым, што такая дзяўчына, як ты бадай, усё перамажа.

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка, прашу даць адказ на мой ліст, бо хаця немалады я ўжо, а вось гэтай праблемы сам вырашыць не магу. Паўгода назад пазнаёміўся я з дзяўчынай. Яна маладая, ёй толькі 17 год. Не спадзяваўся я тады, што наша сяброўства будзе працягвацца. Глядзеў на яе як на маладое, наіўнае дзяўчо. А цяпер мы кахаем адзін другога. Але непакоіць мяне вельмі, што мне ўжо 32 гады стукнула. Ёй гэта не перашкаджае, яна гатова тут жа выйсці за мяне замуж, нават не закончыўшы школы. Ёй яшчэ асталося два гады вучобы. Кажа, што завочна закончыць, абы толькі быць са мной. І што мне рабіць? Ці гэтая вялікая розніца ў гадах не стане ў будучым перашкодай у нашым сямейным жыцці? Парай, Сэрцайка!

Янка з Б.

Янка! Розніца ў гадах асноўнага значэння ў жыцці не адыгрывае. Найважнейшае — узаемныя пачуцці. І яны, як пішаш, вас моцна спалучаюць. Але цэлая праблема ў тым, што яна яшчэ маладая, вучаніца, замаладая, каб выходзіць замуж. Яна ашаломленая каханнем, гатова на ўсё, каб толькі быць з табой. Так, у гэтакім узросце пачуцці бываюць палымяныя, але нетрывалыя, а рассудак яшчэ не мае голасу. Гэтыя пачуцці як раптоўна ўспыхнулі, так раптоўна могуць і пагаснуць. Тут патрэбны час, які пакажа, ці гэтыя пачуцці сапраўды трывалыя, каб можна завесці сям'ю. Цяпер аб гэтым не можа быць гаворкі. Яна ж павінна закончыць школу. І ты, дарослы мужчына, для яе дабра, а таксама і для свайго, мусіш яе ў гэтым пераканаць. Пажаніцца і праз пару год не будзе яшчэ позна.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў

### БІЯЛАГІЧНЫЯ РЫТМЫ І ТВОРЧАСЦЬ

Усё больш вядомай на свеце становіцца **хронабіялогія** — навука, якая займаецца біялагічнымі рытмамі. У апошні час праведзена шэраг даследаў, аналізуючых індывідуальныя рысы творчасці вялікіх паэтаў і пісьменнікаў — класікаў літаратуры і нашых сучаснікаў. Сцверджана, што сярод даволі значнай групы тварцоў, да якой залічаюцца Пушкін, Лермантаў, Талстой і Блок, характэрны быў трохгадовы цыкл творчай актыўнасці, што пакрываецца з рытмам сонечнай актыўнасці.

Біялагічныя рытмы, несумненна, аказваюць уплыў на творчы працэс. У ГДР праведзены вельмі арыгінальныя доследы, аналізуючыя музычныя рытмы ў вядомых творах кампазітараў-класікаў.

Высветлілася, што частата змены музычных тэм у Чайкоўскага складае тры секунды, у Бетховена — пяць, у Моцарта — сем. Пасля гэтага было зроблена супастаўленне музычнага рытму і музычнай памяці з біялагічнымі рытмамі арганізма. Вывад атрымаўся цікавы: мы любім і найбольш захоўваем у памяці тыя мелодыі ці музычныя тэмы, рытм якіх найбольш згодны з нашым індывідуальным біялагічным рытмам. Такім чынам, біялагічны рытм адыгрывае ролю як бы ўнутранага камертона ўспрымаемай музыкі, і ў выпадку згоднасці рытму музычнага твора з голасам нашага ўнутранага камертона гэты твор дае нам найбольшую прыемнасць і тады мы доўга яго памятаем.

Статыстычныя доследы, якія цяпер вядуцца, дазволяць акрэсліць аптымальны час працягвання музычных перадач па радыё і тэлебачанню. Разлічаная на статыстычнага слухача музычная перадача павінна быць старанна прадумана, каб слухачы ці тэлегледачы не адчулі стомленасці. Музыка, нязгодная з нашым біялагічным рытмам, можа аказаць некарысны ўплыў на наш арганізм.

Доследы працягваюцца, і можна з поўнай упэўненасцю сцвердзіць, што з кожным годам будзе прыбываць новых вестак з гэтай вельмі цікавай галіны ведаў аб чалавеку.

**Эскулап**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### АСЛЯПЛЯЛЬНА... ЧОРНЫЯ ЗУБЫ

У многіх раёнах Азіі лічаць, што самыя здаровыя зубы — чорныя. Чарната гэта штучная і эфектыўна ахоўвае зубы. У В'етнаме, напрыклад, папулярны наступны метад „чарнення" зубоў: свежанарэзаны скрылік лімона носяць у роце некалькі дзён — лімонная кіслата ўмацоўвае эмаль і выдаляе вапну. Затым на маленькія кавалачкі паперы накладваецца сумесь чорнай фарбы, імбіру і манго, пасля чаго іх акуратна прыціскаюць да зубоў. Праз дванаццаць гадзін зубы набываюць шчыльнае і цвёрдае пакрыццё чорнага колеру, якое надзейна ахоўвае іх ад пашкоджанняў.

## Этнаграфічнае акенца



*Народная разьба ў дрэве. Дом у вёсцы Збуч гм. Чыжы.* *Фота М. Гайдука.*




Калі ён вярнуўся, Ткачэвіч сядзеў, стомлена адкінуўшыся на спінку крэсла і прысунуўшы да сябе план порта, уважліва яго разглядаў.

— Малавата мы зрабілі парэзаў — сказаў ён. — Але мэты ўсё ж, думаю, дасягнулі. Нічога ў іх цяпер не атрымаецца!..

— Акрамя нас, таксама хтосьці зараз рэжа! — сказаў Міша.

— Абавязкова! Раніцай сходзім, паглядзім, што ў нас атрымалася.

Так і сказаў: „Сходзім, паглядзім, што ў нас атрымалася" — будзённа і звычайна, быццам размова ішла праз градкі, куды яны саджалі расаду капусты.

Справа зроблена. Крэйнц з уласцівай яму стараннасцю злучыў усе шурфы правадамі, упэўнены ў тым, што маскіроўка перашкодзіць падпольшчыкам парушыць электрычны ланцуг. Але Крэйнц памыліўся ў сваіх разліках. Менавіта таму, што правады былі закапаны ў зямлю, стала магчымым перарэзаць іх, пра што Крэйнц не даведаецца да таго моманту, калі будзе ўключаны рубільнік.

Барацьба! Два чалавекі вядуць павольную, нетаропкую размову, і здаецца, што яны проста стаміліся пасля вялікага рабочага дня і не перажылі трывожных гадзін і страшэннай ночы. Як вайна мяняе нормы паводзін! Помніцца, аднойчы ён трапіў на манеўрах у балота і загруз да пояса. Колькі потым было размоў аб мужна пераадоленых цяжкасцях. Аб гэтым нават пісалася ў „баявым" лістку. А цяпер яны з Ткачэвічам маглі кожную секунду загінуць. Але як толькі прайшло пачуццё непасрэднай небяспекі, як быццам хваляй змыла ўсе перажыванні. Вядома, што недзе ў глыбіні душы Мішу яшчэ не пакінула хваляванне, але ён наўрад ці прызнаўся б у гэтым самому сабе.

Вырашылі, што пакідаць порт не трэба. Ткачэвіч лёг на канапе, а Міша на стале, падклаўшы пад галаву папку са справамі.

Раніцай Ткачэвіч ледзь разбудзіў Мішу.

— Давай хуценька злазь са свайго каралеўскага ложка! — сказаў ён, бязлітасна выцягваючы папкі з-пад яго галавы. — Прагуляйся па беразе! А потым да Лены. Яна, напэўна, чакае, месца сабе не знаходзіць.

Адчуваючы боль ва ўсім целе, Міша саскочыў са стала і войкнуў — галава не паварочвалася.

— Ідзі! Ідзі, — прыспешваў яго Ткачэвіч. — Фізічная зарадка табе карысная.

Міша вылез, паглядзеў на жалезныя таросы, па якіх прабіраўся ноччу, і пакруціў галавой, быццам скідаючы рэшткі сну... І як толькі ён змог у поўнай цемры прайсці ўвесь гэты шлях? Калі б яго зараз прымусілі паўтарыць пры сонечным святле, ён бы вочы заплюшчыў ад страху.

Ён пайшоў уздоўж берага да дваццатага прычала, уважліва ўглядаючыся ў зямлю, ці не засталося дзе канаўкі. Нічога не было бачна. Нават самы востры позірк не выявіць, што тут хтосьці ўзрыхляў зямлю...

Праз гадзіну Міша ўжо быў у Лены. Ён падрабязна расказваў аб падзеях мінулай ночы. Надзя адразу ж перадала аб гэтым радыёграму.

Штаб запытаў іх, колькі ў горадзе нямецкіх войск. І цэлы дзень, да каменданцкай гадзіны, дзяўчаты бегалі па самых аддаленых ускраінах горада. Войск, прызначаных для абароны горада, яшчэ не было. У Татарцы і Дальніку яны налічыліся каля трох батальёнаў немцаў і там жа ўбачылі невялікую румынскую часць. Акрамя таго, ім удалося высветліць, што асноўныя штабы выехалі ў бок Авідыяполя. Будаўніцтва дотаў і дзотаў ужо спынілася, а многія з пабудаваных былі закінуты.

Увогуле ім удалося ўстанавіць, што горад амаль апусцеў ад войск. Адзіным месцам, дзе іх яшчэ можна ўбачыць, быў порт.

Вярнуўшыся дамоў, дзяўчаты адразу ж звязаліся са штабам.

— Патрабуй, каб хутчэй бамбілі порт, — гаварыла Лена Надзі. — Няхай не трацяць марна часу!..

Калі б Лена магла, яна сама ўзялася б за ключ, так не цярпелася ёй перадаць у штаб усё, што яна цяпер перажывала. Але Надзя прызнавала толькі кароткія радыёграмы, яна старанна выціскала з тэксту ўсе эмоцыі.

За гэтыя месяцы дзяўчаты не тое каб параднiліся — вельмі ўжо яны былі розныя, але пастаяннае пачуццё небяспекі, адказнасць за кожны ўчынак — бо адна памылка можа каштаваць жыцця ўсім, хто побач, — нарэшце, проста жыццё з яго штодзённымі клопатамі звязалі іх так цесна, што адна думка аб тым, што набліжаецца час, калі яны непазбежна павінны будуць расстацца, палохала, і яны адганялі яе ад сябе.

А між тым, па меры таго, як да Адэсы набліжаўся фронт, у штабе ўсё больш хваляваліся аб лёсе дзяўчат, патрабавалі старannай канспірацыі, загадвалі не падвяргаць сябе небяспецы. Прапаноўвалі Мішу, калі гэта неабходна, перайсці на нелегальнае становішча. Па тым, як узмоцнілася гучанне станцыі ў эфіры, Надзя зразумела, што рацыя штаба ўжо ўшчыльную наблізілася да Адэсы.

**(Працяг будзе.)**

Імпартгумар

## РЫЦАРЫ

Дзень быў будзённы і пахмурны. Атракцыёны не працавалі, і ў парку было безлюдна. Мы з Віцькам сядзелі на лаўцы ў палоне зялёна-жоўтага суму і чорнай нудоты.

І раптам міма нас прайшла яна, асляпляльна прыгожая, стромкая, як маладая таполя, грацыёзная, бы лебедзь. Яе выразныя вочы, акаймаваныя доўгімі павекамі, зірнулі ў наш бок і навылёт прастрэлілі хлапечыя сэрцы.

— Афрадыта! — прашаптаў у захапленні Віцька.

— Аэліта! — выдыхнуў я.

— Ты верыш у каханне з першага позірку? — спытаўся нейкім рахманым голасам Віцька.

— Цяпер — веру, — адказаў я і прапанаваў: — Давай пойдзем услед за ёю, можа, і пазнаёмімся неяк.

— Не, каханне дзяліць нельга, нават з лепшым сябрам, — рашуча заявіў Віцька. — Трэці — лішні.

— Ты ёсць гэты трэці! — адказаў я. — Ды я за ёю гатовы пайсці на край свету!

— І ўсё ж я маю больш права пазнаёміцца з ёю, — запярэчыў Віцька. — Калі б, напрыклад, яна тапілася ў рэчцы, я выратаваў бы яе, бо я маю трэці разрад па плаванню і з'яўляюся членам добраахвотнага таварыства выратавання на вадзе.

— Ды што твая рэчка — дробязь! Вось калі б здарыўся пажар, я першы кінуўся б у самае пекла і выцягнуў бы яе з агню. Я нядаўна ўступіў у таварыства пажарнікаў, — выставіў я свой аргумент.

— А я, калі б на яе раптам накінуліся хуліганы, разагнаў бы іх, — сказаў Віцька. — У мяне другі разрад па самба.

— А ў мяне па боксу першы разрад! — пахваліўся я.

Тут мы заўважылі, як з бакавой цяністай алеі выйшаў здаравенны бамбіза. І калі аб'ект нашага кахання параўняўся з ім, гэты суб'ект ухапіў рукою за яе сумачку і пачаў нахабна вырываць з дзявочых рук.

— Дапамажыце! — закрычала яна, але бамбіза не адставаў.

— Слухай, — ухмыльнуўся Віцька. — Не мужчынская гэта справа — спрачацца з-за жанчыны. Так і быць, уступаю! Знаёмся сам з ёю, а мне штосьці расхацелася. Ды і часу няма, трэба ў басейн ісці на трэніроўку.

— Баязлівец! — сказаў я і рашуча накіраваўся да тэлефоннай будкі, каб пазваніць па „02".

Каго-каго, а дзяўчыну, у якую можна закахацца з першага позірку, міліцыя абавязкова выратуе. Не ўсе ж такія баязліўцы, як Віцька!

**Алесь Нікалайчанка**



— *Яе сканструяваў мой сын.*



**Узняў свой узровень, а не дасягнуў столі, дасягнуў столі, а не дацягнуўся да неба, дацягнуўся да неба, але... адарваўся ад зямлі.**






*Пад парасонам.*

### ГУМАР З БАРАДОЮ

— Скажы, дзядзька, з чаго вецер робіцца?
— Вось дурань! Зірні ўгору, што там ёсць.
— Неба.
— А ўнізе?
— Зямля.
— А пасярэдзіне?
— Ды нічога.
— Дык вось пасярэдзіне не нічога, а скразняк. А калі скразіць, дык і вецер.

### МІНІВЕРШЫ

* * *

Быў Гаўрыла — радавы,
Называў усіх на Вы.
А пачаў займаць пасты,
Дык заве усіх на ты.

**С. С. Скала-Зубаў**

* * *

На жаль, сям-там і так працуюць:
Адзін арэ, а два кіруюць.

**Р. Родчанка**

### КРОТ

Ён з Суслікам ніколі не сварыўся:
Цішком пад крэсла Суслікава
рыўся.

**Дзмітро Салодкі**

### ДЗЕЦЯМ ПРА ДАРОСЛЫХ

— Чыжык-пыжык, дзе ты быў?
— На фантане воду піў,
Заглынуў струменьчык, два —
Зашумела галава.

**М. Шкляр**



*Без слоў.*

### НА ЛАЎЦЫ

Адзін малады задрыпанец сядзеў на лаўцы і старанна жаваў жавальную гумку. Бабуля Еўка, якая была побач, доўга глядзела на яго, а потым кажа:

— Вельмі міла з вашага боку, што вы спрабуеце са мною размаўляць, але я нічога не чую, бо я зусім глухая.

### НА ДОЖДЖ

Сустрэў старшыня Аглаблёвіч працаўніка метэастанцыі і пытае:

— То як там, дождж будзе ці не?

— Будзе.

— Хіба прылады ўжо на гэта паказваюць?

— Ды не. Майму дзеду набожчык сніўся.

### НЕ ПЕРАХІТРЫЎ

За акадэмічную задоўжанасць студэнта пазбавілі стыпендыі. Хітруючы, ён піша ліст бацьку: „Перайшоў з філалагічнага факультэта на факультэт журналістыкі. Дык тэрмінова высылайце грошы на друкарскую машынку."

Бацька, ведаючы няшчырасць свайго сына, адказвае яму: „Ліст, у якім ты просіш мяне выслаць грошы на прыдбанне друкарскай машынкі, атрымаў. Мая бацькоўская парада — на фізічны факультэт не пераходзіць, бо і на цыклафазатрон сродкаў няма".

### ДАМОВІЛІСЯ

Сустрэліся каля крамы Кастусь з Парфенам.

— То можа, чвэртку возьмем? — пытае Кастусь.

— Ды што ты, Кастусь, такая спёка, пылішча на вуліцы, што і дыхаць цяжка, а ты такое прапануеш!

— Ды мы зойдзем у садок ды ў цяньку пад грушаю...

— Тады бяры паўлітра!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Дама падае чэк у касу банка і збянтэжана гаворыць:

— Прабачце, што подпіс мужа крыху неразборлівы. Я не думала, што ён так спалохаецца, убачыўшы ў маіх руках пісталет...

✲

Джэк з сябрамі ўвесь час іграў на гітары і спяваў.

— Як было б добра, калі б вас паказвалі па тэлебачанню, — уздыхнула яго маці.

— Вось бачыш! — усклікнуў Джэк. — А раней ты ўвесь час бурчэла...

— Так, але ж тады я магла б вас выключыць!

✲

Новы супрацоўнік звяртаецца да калегі:

— Я тут яшчэ нікога не ведаю, таму ці не маглі б вы мне сказаць, да каго звяртацца, каб мне павысілі зарплату?



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Эвы Красоўскай з Беластока, Анелі Грыгарчук з Агароднік, Вольгі Карчэўскай з Клейнік, Галены Артэмюк, Людмілы Карпінскай, Аліны Галушэўскай з Парцава змяшчаем песню:*

### CHŁOPAK Z DREWNA

**śpiewa: Urszula Sipińska**
**słowa: Agnieszka Osiecka**
**muzyka: Katarzyna Gärtner**

Gdybym była bardzo biedna,
to bym miała chłopca z drewna,
nie wołałby jeść i pić,
dobrze by nam było razem żyć!
Ale jestem właśnie taka
i takiego mam chłopaka:
trochę prosty, trochę krzywy,
nieszczęśliwy i szczęśliwy.
Z nim nie byłoby mi źle,
gdyby kochał tylko mnie, mnie, mnie!

Oj, dobrze byłoby, poduchy i puch,
byłoby nam miło, policzmy do dwóch,
biało byłoby, oj, białoby nam,
oj, byłoby, byłoby, byłoby nam!

Gdybym była bardzo miła,
inżyniera bym zdobyła,
nie byłby to żaden gbur,
znosiłby mi worki złota z gór!
Ale jestem właśnie taka
i takiego mam chłopaka,
co nieśmiały jest i śmiały,
i nie czarny i nie biały.
Z nim nie byłoby mi źle,
Gdyby kochał tylko mnie!

Oj, dobrze byłoby na jawie, we śnie,
byłoby nam miło w pogodzie, we mgle,
biało byłoby, oj białoby nam,
oj, byłoby, byłoby, byłoby nam!

Gdybym była bardzo śliczna,
zdobyłabym królewicza
pod pierzyną spałabym
i słowika w sercu miałabym.
A ja jestem właśnie taka,
nieznanego znam chłopaka,
niezdobyte przed nim miasta
i płonąca nad nim gwiazda.
Z nim nie byłoby mi źle,
gdyby kochał tylko mnie, mnie, mnie!

Oj dobrze byłoby, poduchy i puch,
byłoby nam miło, policzmy do dwóch,
biało byłoby, byłoby, byłoby nam!
Oj, dobrze byłoby na jawie, we śnie,
byłoby nam miło w pogodzie, we mgle,
biało byłoby, oj białoby nam,
oj byłoby, byłoby, byłoby nam!



— *Звярніцеся да майго намесніка — ён усё вырашыць!*




### БІЗНЕСМЕН-ЖАБРАК

Малады жыхар Нью-Йорка Рычард Векслер, які спачатку вырашыў стаць музыкантам і займаўся па класу скрыпкі, аднойчы прыйшоў да думкі, што ў галіне музыкі ён не будзе мець добрага заробку. Таму ён знайшоў больш надзейны спосаб набыцця капіталу. Кожны вечар ён распранаў свой больш-менш прыстойны звычайны касцюм і апранаў дзіравыя джынсы і такі ж світэр, браў з сабою сабаку і кіраваўся на Брадвей. На тратуары Рычард Векслер клаў адкрыты футляр ад скрыпкі і кардон з жаласнымі словамі: „Добразычлівы прахожы, студэнт просіць вас аб дапамозе, каб мець магчымасць закончыць інстытут". І з такой жа жалобнай мінай на твары, стоячы каля сцяны, пачынаў жалобна іграць.

За адзін сеанс іграў ён выпрошваў да 300 долараў. І ніхто не падазраваў, што гадавы даход вулічнага артыста складаў каля 55.000 долараў, што гэты „бедны" студэнт мае шыкоўную кватэру, дарагія касцюмы і магчымасць праводзіць адпачынак у лепшых мясцінах Багамскіх астравоў. Не падазравалі, пакуль ён сам аднойчы не пахваліўся сваёй вынаходлівасцю выпадковаму газетнаму рэпарцёру, а той надрукаваў адпаведнае сенсацыйнае паведамленне і здымкі „студэнта" ў газетах.

Так неўзабаве лопнуў гэты яго жабрацкі бізнес. Але Рычард Векслер, здаецца, не вельмі хвалюецца. Папершае, у яго ёсць нядрэнныя зберажэнні, па-другое, можна ў рэшце рэшт проста змяніць месца вулічных канцэртаў.




**Не шкадуй сэрца: калі яно не камень, то ўсё вытрымае.**